ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

# ВОЛЬНАЕ +TV ГЛЫБОКАЕ

Wolne Głębokie

Жыве Беларусь!

Free Hlybokaye

Выдаецца са снежня 1994 года. № 10 (70), жнівень, 2001 года. Кошт па дамове

## “Гэта ўсё пра нас – Беларусаў”

***Гартаючы выданні старых гадоў, прагна шукаю ўсё, што тычыцца нас – беларусаў: мы, як нацыя, абрады, звычаі, мова, погляды на свет… Якія розныя былі ўяўленні пра беларусаў, кім нас лічылі -- усё гэта вы знойдзеце ў наступных вытрымках: пачытайце і задумайцеся… Мы не павінны згубіць саміх сябе. Бо мы – Беларусы!***

“Белорусов считают в крае около 3,5 миллионов. Живя среди болот и лесов, Белорусы не могут пользоваться достатками… Редко крестьяне едят чистый ржаной хлеб, а обыкновенно смешивают ржаную муку с мукою ячной, овсяною, а часто и просто с мякиною. Болотистая почва и сырой климат, вместе с изнурительным земледельческим трудом, вредно влияют на здоровье и силы Белорусов, которые отличаются хилостью и робким нравом. Песни белорусские унылы и однообразны. Особенною бедностью отличаются Витебские Белоруссы…”

*“География всеобщая и русская”, Спб, 1891г.*

“Ня ўсе беларусы ясна зразумелі хто яны і дзеля гэтага шмат хто можа і не прызнацца, што ён беларус. Неграматны, цёмны чалавек не прызнаецца таму, што ён ня ведае…, але ёсць шмат і добра вучаных беларусаў, якія прызнаюць сябе палякамі або маскоўцамі. Гэта таму, што іхнія дзяды…, а можа й яны самі, здрадзілі свайму народу, выракліся роднае мовы і самога імя беларускага… Ведама гэта толькі з'ява пераходнага часу. Сьведамасць беларуская гэтак расце, што за некалькі гадоў вернуцца да народу беларускага ўсе яго збаламучаныя сыны”.

“Адзнакаю беларуса ёсць яго мова. Праўда, ёсць шмат такіх беларусаў, што ня хочуць, а то й ня ўмеюць гаварыць па-беларуску. Гэта іхняе няшчасце…

Беларуская мова ад Гародні і Беластоку аж да Бранску – адна мова. Адныя ў ёй словы…, бо яе стварыў адзін народ, што мае сваю асобную і рэзка выдзеленую душу”.

*“Геаграфія Беларусі”, Аркадзь Смоліч, 1926г.*

***Адшукаў Р.Шарыпкін, настаўнік Лучайскай базавай школы.***

## Нашы паважаныя чытачы!




Сёння пятніца і Вы ўпершыню трымаеце ў руках тыднёвік «Вольнае Глыбокае» з каляровым укладышам, дзе змешчана праграма тэлеперадач на наступны тыдзень і рэклама. Так, сённяшні дзень мы з гонарам можам лічыць днём нараджэння тыднёвай газеты паўднёва-заходняга рэгіёну Віцебшчыны, днём нараджэння тыднёвіка «Вольнае Глыбокае». І Вы ўсе, нашы памагатыя, прыхільнікі і чытачы, дапамаглі гэтай падзеі. У «Вольным Глыбокім» мы і далей будзем адлюстроўваць наша паўсядзённае жыццё ва ўсіх яго праявах, будзем змяшчаць пісьмы чытачоў, колькасць якіх увесь час павялічваецца, аналітычныя матэрыялы нашых карэспандэнтаў, навіны з рэгіёна, вершы, апавяданні, гумар. Толькі разам з Вамі, паважаныя чытачы, мы зробім газету цікавай і разам з Вамі напішам летапіс часу, які некалі ўвойдзе ў гісторыю. Пішыце нам. Тэлефануйце. Чытайце нас! Будзьце заўсёды з газетай «Вольнае Глыбокае»!

У добры шлях нам!

*Супрацоўнікі «ВГ»*




*Фота Уладзіміра Скрабатуна*

## Адзіны кандыдат ад грамадскай кааліцыі

21 ліпеня стала вядома імя адзінага кандыдата ад грамадскай кааліцыі -- Уладзімір Ганчарык. Нарадзіўся ён 29 красавіка 1940 года ў вёсцы Аўгустава Лагойскага раёна ў шматлікай сям`і. У 1961 годзе скончыў інстытут народнай гаспадаркі па спецыяльнасці «Эканоміка сельскагаспадарчай вытворчасці». Працаваў эканамістам, галоўным бухгалтарам саўгаса. Затым вучыўся ў аспірантуры. Абараніў дысертацыю. Кандыдат эканамічных навук. З 1986 года ўзначальвае прафсаюзы. Дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Жанаты, мае двух дзяцей. Пасля аб`яўлення У. Ганчарыка адзіным кандыдатам астатнія члены «пяцёркі» -- С. Домаш, П. Казлоўскі, М. Чыгір, С. Калякін далі згоду працаваць на адзін вынік -- на перамогу адзінага кандыдата ад грамадскай кааліцыі.

*Па матэрыялах друку*

## Цытата першай паласы

Тюрьмой сегодня пахнет мир земной,
тюрьма сочится в души и умы,
и каждый, кто смиряется с тюрьмой,
становится строителем тюрьмы.

*И.Губерман*

*На скрыжалях тысячагоддзяў*

## Катлы з мясам даражэй за волю

На мастацкай выставе аднаго з гарадоў Італіі змешчана карціна Д.Бассона (XV стагоддзе) “Маісей здабывае ваду са скалы”. Але цікава не столькі сама карціна, колькі эпізод, які лёг у аснову яе напісання.

Даўным-даўно Маісей павёў людзей праз пустыню, каб выратаваць іх ад рабства. Людзі, якія месяцамі, без вады, крочылі па гарачаму пяску, былі расчараваны, у вачах застыў адчай, ні ў кога не было ні кроплі надзеі. І яны гаварылі ў вочы Маісею, які выратаваў іх ад рабства:

“О, каб памерлі мы ад рукі Госпада ў зямлі егіпецкай, калі мы сядзелі ля катлоў з мясам, калі нам хапала хлеба ўволю. Бо вывеў ты нас у гэту пустыню, каб усіх, хто сабраўся, замарыць голадам”.

Маісей з вялікай горыччу зразумеў, як моцна авалодаў людзьмі дух рабства: уволю хлеба і катлы з мясам даражэй за волю…

Гісторыя паўтараецца. Мы, беларусы, якія за 70 год савецкай улады прызвычаіліся сядзець ля таннай каўбасы і такога ж таннага віннага напою, не здольны ісці за правадыром у пустыню, рызыкаваць, пазбавіцца рабства ад чужой нам сістэмы, чужога ўладарання… Танная каўбаса даражэй нам волі, сапраўднай эканамічнай свабоды, уласнага шчасця… А можа гэта не так? Адказ на пытанне мы атрымаем пасля выбараў 9 верасня. ***Час выбіраць!***

*Галіна Сутула*

## Віншуем з перамогай

45 навучэнцаў школ, тэхнікумаў, ПТВ і іншых навучальных устаноў сталі дыпламантамі усебеларускага даследчага конкурсу “Мой радавод: лёс сям’і ў XX стагоддзі”.

Дыпломы I ступені былі ўручаны пецярым вучням, сярод якіх ***Антон Ермалёнак*** з СШ №3 г. Мёр. Віншуем Антона з перамогай і зычым яму новых поспехаў у вучобе і жыцці.

*Т.Астроўскі*

## Прэтэндэнты толькі чатыры?

З дваццаці двух кандыдатаў, прэтэндэнтаў на прэзідэнцкі пост, пасля збору подпісаў засталіся толькі чатыры: Сямён Домаш, Уладзімір Ганчарык, Сяргей Гайдукевіч і Аляксандр Лукашэнка. Да жаданай лічбы ў сто тысяч подпісаў, па дадзеных ЦВК на 25 ліпеня, не дацягнулі С. Калякін (97 тысяч подпісаў), М. Марыніч (96 тысяч) і іншыя. Аднак, у кандыдатаў сваё меркаванне. Ініцыятыўныя групы Чыгіра, Сініцына, Казлоўскага, Калякіна, Марыніча заявілі, што перадалі ў выбарчыя камісіі больш 100 тысяч подпісаў.

*М. Эйсмант*

## Лета. Вада. Няшчасці

8 ліпеня ў рацэ Друйка Браслаўскага раёна ўтапіўся 6-гадовы хлапчук. 10 ліпеня ў вадаёме ля вёскі Віроўля Гарадоцкага раёна загінуў пяцікласнік. У Лепельскім раёне ў возеры Каралёўскае ўтапілася гадавалая дзяўчынка, за якой ніхто не прыглядаў.

У цёплыя дні ліпеня ў Віцебскай вобласці вада забірае жыцці 4-5 чалавек у суткі. Будзьце асцярожнымі ля вадаёмаў, цаніце сваё жыццё, знайце ва ўсім меру.

*С.Мікіценка.*

*Навінкі з кніжнай паліцы*

## Літаратурныя мясціны Глыбоччыны

Гэты краязнаўчы трохтомны даведнік выйшаў у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» ў 2000 годзе. Падрыхтаваны ён у Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны. Аўтарамі кнігі сталі Л.Кулажанка, А.Мальдзіс, С.Сачанка. Навуковы рэдактар — Адам Мальдзіс. «Незвычайнасць гэтага выдання, — гаворыцца ў прадмове, — заключаецца ў тым, што ўпершыню ў нашай даследчай практыцы аўтары ідуць не ад асобы пісьменніка, не ад яго творчасці, а ад зямлі, якая яго нарадзіла ці натхняла. Таму прынцып размяшчэння матэрыялу — не персанальны, а геаграфічны, тэрытарыяльны».

Даведнік складаецца з трох кніг, дзе вобласці Беларусі падаюцца ў алфавітным парадку. У першай кнізе — аўтары з Брэсцкай, Віцебскай і Гомельскай абласцей. На старонках 152 — 159 згадваецца пра нашых знакамітых землякоў — глыбачан Язэпа Драздовіча, Клаўдзія Дуж-Душэўскага, Міхася Машару, Алеся Жыгунова, Мікалая Мінскага (Мікалая Віленкіна), Паўліны Мядзёлкі, Лявона Свэна ( Леаніда Савёнка ),Вацлава Ластоўскага, Уладзіміра Сауліча, Галіну Сутула, Марыю Баравік, Ігната Буйніцкага, Тадэвуша Кірылава, Тамару Чабан, Ірыну Жарнасек, Зіновія Юр’ева. Згадваецца ў кнізе і пра нашага земляка, ураджэнца вёскі Верацеі Докшыцкага раёна, Кастуся Акулу.

Выданне ўтрымлівае вельмі цікавыя і разнастайныя матэрыялы і рэкамендавана навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі РБ у якасці дапаможніка для настаўнікаў. Шкада, што тыраж выдання ўсяго 3400 экземпляраў і што кнігі ёсць толькі ў школьных і, спадзяюся, у раённых і сельскіх бібліятэках. Купіць кнігу ў кнігарні нельга.

*М.Палянская*

*Радкі з канвертаў*

# Незалежны друк прымушае думаць

Я чытаю газеты і дзяржаўныя, і незалежныя. Праўда, калі гаварыць пра дзяржаўныя, то іх прагляд ніяк чытаннем не назавеш. Чытаць няма чаго, а калі і ўзнята якая праблема, то паказана яна гладка роўна, як пры КПСС і разажвана да таго, што і думаць не трэба. Нас развучылі думаць за 70 год. Мы многаму вучымся сёння, а перш-наперш трэба вучыцца самастойна думаць, самім вырашаць, не баяцца браць адказнасць на сябе.

Незалежныя СМІ садзейнічаюць гэтаму. Там і тэм цікавых шмат, і арыгінальнае, прыбліжанае да жыццёвага, а не да трыбуннага, іх вырашэнне. Там – жыццё: крывое, косае, аднабокае, аднавокае. Якое ёсць – такое і бачна.

Часта кладу перад сабой дзве газеты, выбіраю адну тэму і гляджу што ж пішуць дзяржаўныя і недзяржаўныя СМІ. Само сабой усплывае параўнанне. На рынку двое чалавек прадаюць аўтамабілі. Адзін адфарбаваў, вымыў, адпаліраваў – блеск аж вочы рэжа. Другі прыгнаў запыленыя, пашорганы, неахайны. Разумны пакупнік падойдзе да другога аўтамабіля і купіць яго, бо там дзірка – яна і ёсць дзірка. А адпаліраваны ад'едзе на кіламетр і пайшлі сюрпрызы – тое адвалілася, гэна адклеілася. Сам аднойчы апёкся, ведаю. Тое ж і з друкам. Чытаю незалежныя газеты і ўсе праблемы добра бачны. У дзяржаўным наведзены цень на плот, а пад ім за галаву хапайся, што рабіцца.

І яшчэ ў Беларусі ганарацца высокім узроўнем адукаванасці. Смяюцца з англічан, амерыканцаў, якія не ведаюць нават, хто ў іх прэм'ер, хто які міністр. Смяяцца нечага, ім непатрэбна ведаць хто імі кіруе. Ім дастаткова ведаць, што сёння добра жыць і заўтра горш не стане Што толку, што мы ўсіх амаль ведаем, а ад жыцця аж муціць? Думайце, землякі. Чытайце, аналізуйце, спрачайцеся. Можа калі і мы знойдзем ісціну.

*І.Сяргеенка*

# Быць жанчынай вялікая раскоша

З мужам сваім мы пражылі разам амаль трыццаць год. Удваіх на зямлі рабілі. У кожнай справе я яму сваё плячо падстаўляла: і касіла, і арала, і дровы пілавала, і сям'ю даглядала. Вырасцілі сына і дзвюх дачок. Зараз на пенсіі. У вольны час люблю паглядзець замежныя серыялы. Хоць і некалі, але ўсё кіну. Прыемна паглядзець на прыгожых дагледжаных баб, на мужчын, якія аж млеюць, каб дагадзіць ім. Дораць упрыгожанні, кветкі, бясконца гавораць ласкавыя словы. Адно іх хвалюе – кахае ці не, пераспіць ці не… Іншы раз слёзы наварочваюцца. Нам бы хоць з месяц так пажыць. А то вечна бегатня, нервы – тое не зрабілі, на тое грошы няма, у дзяцей праблемы, ім трэба дапамагчы. За ўсё жыццё мне мой Яўген хустку падарыў як замуж прапанаваў. І слоў ласкавых некалі было казаць ні мне, ні яму. Бачу, што і ў дзяцей нашых тое ж. Вядома ж, адчуваць сябе жанчынай, а не кабылай-ламавіком, прыемна, толькі пры нашым жыцці для многіх з нас, асабліва для вясковых баб, гэта надта вялікая раскоша. Ніколі ўволю не паспалі да сямі, не тое, што да дванаццаці дня, ніколі не ведалі і не пазнаем ужо як дзверы ў рэстаран адчыняюцца. Ніколі не ўбачым на пералагарэлых целах ні бранзалетаў, ні залатых ланцужкоў, ні модных сукенак… Не пафарсяць ногі ў стыльных барэтках. Ніколі мы не адчуем, як гэта добра быць жанчынай, проста бабай, якую кахае мужчына, якая клапоціцца пра дзяцей, выхоўвае іх, а не бегае на дзве-тры работы, каб зарабіць кавалак хлеба. Не трэба нас, старых, асуджаць і смяяцца, што мы любім замежныя серыялы. Не дурныя мы, а проста хочацца адтаяць душой, пагладзець на шчасце іншых.

У маёй старэйшай дачкі ў суседзях новы беларус. Працуе, як угарэлы, а жонка за ім пануе. Хачу, каб і мая дачка так жыла, а не хадзіла ў начныя змены, не трэслася, што нехта пярэйме. Можа й зяць перастаў бы заглядаць у бутэльку, каб атрымоўваў не 46, а 146 тысяч у месяц. У чалавека залатыя рукі, а яму фігу замест заробка даюць. Апошнім часам часта плачу. Проста сяду, задумаюся і такі жаль забярэ… Чаму мы такія гаротнікі і дакуль гэта ўсё будзе?

*З павагай Маргарыта Іванаўна*

# Што задужа, тое нездарова

Так у сваю бытнасць казала мая бабуля. Зараз кажу я сама, калі чытаю інтэрв'ю з некаторымі палітыкамі. Не разумею таго ж С.Гайдукевіча, якому, з яго слоў, стаць прэзідэнтам – раз плюнуць. На ўсе сто працэнтаў упэўнены ў сваёй перамозе С.Калякін. А зусім нядаўна чытаю ў "Віцебскім кур'еры", што і П.Казлоўскі упэўнены ў перамозе. Ці яны не ведаюць у якой краіне жывуць? Ці яны не ведаюць, як аднасяцца людзі да пахвалькоў? А можа яны не чулі беларускай мудрасці: не кажы гоп пакуль не пераскочыш? Я разумею: існуючыя парадкі трэба змяняць і найхутчэй. Я не супраць тых, хто не пабаяўся кінуць выклік сённяшняму кіраўніку, але навошта так перабарщваць? Не веру ў тое, што вышэйназваныя прэтэндэнты вераць у шчырасць сваіх слоў. У свой час і З.Пазняк адчуваў сябе такім жа героем, якому заставалася гуляючы пакласці перамогу ў кішэню. «Паклаў». І сябе збэсціў, і людзей падвёў, якія на яго спадзяваліся.

Трэба быць сціплым. Беспардонласць і біццё кулаком у грудзі, упэўненасць у сваёй ідэальнасці за сем год надакучылі. Цярпліва шукайце шляхі да сваіх выбаршчыкаў. Будзьце простымі, задушэўнымі і верце не ў тое, што станеце прэзідэнтам, а ў тое, што Вас за Вашы заслугі прыкмеціць Усявышні і не пакіне.

*М.П.Шарабайка*

# У ЗША не хапае настаўнікаў

У Злучаных Штатах Амерыкі не хапае 8 тысяч настаўнікаў. У хуткім парадку ўлады наймаюць спецыялістаў з Італіі, Іспаніі, Барбадоса, Ямайкі, Аўстрыі. Прычына крытычнага становішча ў сферы адукацыі ў тым, што ў настаўнікаў адносна нізкі заробак у параўнанні з іншымі прафесіямі – 31 тысяча 910 долараў у год. Што казаць беларускім педагогам, якія ледзь наскрабаюць у год каля тысячы долараў і вымушаны працаваць на ўсю "катушку"?!

*Б.Падбярэзкі*



*Фота Уладзіміра Скрабатуна*

У Глыбокім і Глыбоцкім раёне прадаецца хлеб, які прывозяць прадпрымальнікі з Расіі. Кошт яго меншы, чым у нашага беларускага. Прадпрымальнікі прадаюць яго за 300 рублёў, у самой Расіі ён каштуе яшчэ танней. Яшчэ гады чатыры таму хлеб вазілі з Беларусі ў Расію, цяпер усё наадварот. Гэта гаворыць аб тым, у якім накірунку развіваецца наша сельская гаспадарка. Калі такая палітыка будзе і надалей, то хутка з Расіі мы будзем завозіць малако і мяса. Пытанне толькі: дзе мы будзем браць на гэта грошы.

*Зміцер Лупач*



*Фота Зміцера Лупача*

# Фэст у Будславе

***2 ліпеня тысячы пілігрымаў з усіх куткоў Беларусі сабраліся ў вёсцы Будслаў Мядзельскага раёна Мінскай вобласці, каб ушанаваць абраз Маці Божай Будслаўскай. Захоўваецца ён у касцёле кляштара айцоў-бернардзінцаў. У 1998 годзе кардынал Казімір Свёнтак каранаваў абраз папскімі каронамі.***

***У сёлетніх урачыстасцях прынялі ўдзел усе каталіцкія біскупы Беларусі на чале з кардыналам К.Свёнтакам, апостальскі нунцый на Беларусі, архібіскуп Д.Грушоўскі, апостальскі візітатар для грэка-католікаў, архімандрыт С.Гаек, прадстаўнікі дзяржаўных улад і дыпламатычнага корпуса, святары, манахі, вернікі. Урачыстую імшу адслужыў апоўначы віцебскі біскуп Уладзіслаў Блін.***

1-2 ліпеня адбыўся фэст у Будславе. Гэтай традыцыі ўжо некалькі соцень гадоў. Тысячы вернікаў з гарадоў і вёсак, на машынах і пешшу дабіраліся да святыні, каб пакланіцца цудадзейнаму абразу Маці Божай Будслаўскай, паспавядацца і папрасіць Яе апекі. Свята пачалося ў 12 гадзін 1 ліпеня, калі была адслужана першая імша. У шэсць вечара біскуп Віцебскай дыяцэзіі Уладыслаў Блін адслужыў імшу для вернікаў Віцебшчыны, а ў восем вечара біскуп Кірыл Клімовіч, які зусім нядаўна працаваў у Глыбокім, адслужыў імшу для вернікаў Мінска-Магілёўскай і Пінскай дыяцэзій.

Галоўныя ўрачыстасці пачаліся ў Будславе ў 12 гадзін, у ноч з 1 на 2 ліпеня. Тысячы людзей з запаленымі свечкамі прынялі ўдзел у працэсіі вакол парку, які знаходзіцца насупраць касцёла. Потым да шасці раніцы моладзь спявала рэлігійныя песні, у якіх праслаўляліся Маці Божая і яе Сын, што аддаў жыццё за людзей, у тым ліку і за ўсіх нас. Радавала тое, што большасць песень выконвалася на беларускай мове. Усе галоўныя службы вяліся па-беларуску і толькі раніцай 2 ліпеня былі адпраўлены дзве імшы папольску. Закончыўся фэст 2-га ліпеня імшой, якую адслужыў кардынал Беларусі Казімір Свёнтак. Ён благаславіў вернікаў і заклікаў іх жыць так, як вучыў нас Сын Божы. Там жа было аб'яўлена аб святкаванні 500-годдзя Будслава, якое адбудзецца ў 2004 годзе.

*Зміцер Лупач*

*Памяць*

# Вясковы прадказальнік

Станіслава Казіміравіча Марцулевіча, колішняга жыхара вёскі Цвіціна Мёрскага раёна, у маладосці ўзяў усвой маёнтак пан Матусевіч. Станіслаў даглядаў гаспадарку. Пасля смерці пана маёнтак перайшоў яго жонцы. Тая не прагнала хлопца, пакінула з умовай: "Заставайся, але не жаніся". Прыйшлося падпарадкавацца.

Упершыню Станіслаў Казіміравіч прадказаў у сярэдзіне 30-ых гадоў сваёй гаспадыні, што касцёл у вёсцы Язна дабудаваць не прыйдзецца. Так яно і сталася. Калі пані ўцякала ад Чырвонай Арміі ўспомніла словы Станіслава, які гаварыў, што не давядзецца ёй ездзіць у новай карэце. У перадваенныя часы Марцулевіч пачаў прадказваць надвор'е. Гэта ў яго добра атрымоўвалася, і сяльчане ішлі за прагнозам да суседа.

У 1940-м годзе Станіслаў Марцулевіч прадказаў, што ў іх мясцінах Савецкая ўлада доўга не пратрымаецца. Сапраўды: хутка прыйшлі гітлераўцы. Але ўжо ў пачатку вайны прадказальнік казаў, што немец вайну прайграе. Тады мала хто верыў гэтаму.

Нейкі час Марцулевіч устрымліваўся ад прадказанняў. Пры Сталіне за гэта маглі пасадзіць. Загаварыў толькі ў час хрушчоўскай "адлігі".

У самы разгар атэізму ён прадказаў вяртанне да Хрысціянскіх традыцый і каштоўнасцяў. Казаў, што прыйдзе час і людзі будуць мець гектары зямлі, шмат коней, кароў… Сорак год таму назад падобнае ўспрымалася вяскоўцамі добрай ружовай казкай.

У апошнія гады жыцця Станіслаў Казіміравіч сказаў, што і сам не разумее адкуль бярыцца яго прадказанні. Часцей за ўсё гэта адбываецца ў час начнога палявання на барсука. Асцярожны звярок доўга не з'яўляецца ля нары. І калі паляўнічы пачынае засынаць, яго будзіць голас і расказвае пра будучыню. Прадказальнік не дажыў да тых дзён, пра якія шмат расказваў землякам. Яго злажыла невылечная хвароба, але людзі да цяперашняга памятаюць і яго, і цудадзейны дар прароцтва.

*У.Шык, Паставы*

*Радкі з канвертаў*

# Што скажуць бацькі пра іх учынкі?

Прачытаў пра шматлікія парушэнні заканадаўства, на якія ідуць мясцовыя ўлады ў час перадвыбарнай кампаніі і вось што падумаў. Чыноўнікі добра ўладкаваліся пры ўладзе. Маюць грошы, ільготы, адзін адному сябры, адзін адному палачкі-выручалачкі. Круцяць, муцяць, хаваюць ад людзей праўду, каб надалей захаваць сабе беспраблемнае жыццё. Але ж ва ўсіх чыноўнікаў былі і ёсць бацькі. Многія з іх жывуць да цяперашняга ў калгасах. Рвуць жылы і клянуць тую сістэму, за якую гарой стаяць іх дзеці. Фактычна, дзеці прадалі сваіх бацькоў, дзядоў, за добры аклад, за пасаду, за чысты касцюм і цёплы кабінет. Дажываюць, старыя, як жабракі… Многія дзеткі, якія сёння сядзяць у выбарчых камісіях, родам з вёсак, з сем'яў калгаснікаў. Многіх з іх бацькі вучылі з мазаля, сабе ва ўсім адмаўляючы. Сёння дзеці змаглі прыстроіцца ля ўлады і выракліся бацькоў, бо, патураючы цяперашняй сістэме, яны падпісваюць прыгавор жабрацтва старым і нямоглым людзям. Хто падумае пра гэта? Той, для каго родныя карані і родная кроў даражэй за сытае месца ў розных уладных інстанцыях.

*Міхаіл.Т*

*Чорным па беламу*

# Ці хутка з`явіцца ўсмешка на твары беларуса?



*Калі адпачнуць і ўсміхнуцца гэтыя жанчыны-беларускі?*

Не дзіва, што беларусы ў большасці сваёй людзі змрочныя, насупленыя, падчас злыя і агрэсіўныя. Заядае нас штодзённы быт, бясконцае прыніжэнне, непатрэбная трата сіл на тое, што ва ўсім цывілізаваным свеце лічыцца нормай.

Што б ні гаварылі з вялікіх трыбун, рэальнасць пераконвае ў адваротным.

Памятаю гады два-тры таму назад у Глыбоцкіх магазінах "Він-Кон", "Пеўнік", "Рагнеда", стаялі чэргі. Хоць і нудна ў іх стаяць, але менавіта чэргі былі паказчыкам плацёжаздольнасці глыбачан. Сёння заходзіш ў магазін і бачыш двух-трох чалавек, якія стаячы ля вітрын, вусна рашаюць матэматычныя задачкі: хопіць на твораг ці лепш купіць бутэльку малака? Спажываць мы сталі менш. Многія ядуць раз у дзень, а астатні час на "падножным" корме: што з агародаў, што з запасаў. Адкуль жа будзе настрой, калі кішкі марш іграюць?

Пуста і ў аптэках. На жаль, гэта паказчык не таго, што мы перасталі хварэць. Хутчэй наадварот: хварэем мы амаль усе, а лечымся абы як. Ведаю адну жанчыну, якая сама сабе ставіць дыягназ, сама дастае лекі. Адметна тое, што тры ці чатыры хваробы яна стараецца вылечваць аднымі і тымі ж таблеткамі.

-- " Някалі па паліклініках хадзіць, — тлумачыць яна, — агарод зарос".

"Паехалі" ўніз і цэны на нерухомасць, на транспарт. Калі тры гады назад мая радня прадала кватэру ў Глыбокім за 16 тысяч долараў, то сёння за трохпакаёўку просяць 7-8, за аднапакаёўку 2-4 тысячы. Патрыманую іншамарку можна купіць і за паўтары тысячы долараў і за 800 долараў. Вядома ж, укладаць ў яе прыйдзецца, але паездзіш на 20-гадовай іншамарцы больш, чым на новых "Жыгулях" ці "Масквічах". Да таго ж іхнія машыны, як і іхнія жанчыны: на выгляд ім заўсёды даеш менш, чым яны маюць.

Зніжаюцца цэны на адзенне, абутак, мэблю, калі ўсім гэтым гандлююць прадпрымальнікі. Бо ніводзін гаспадар не будзе ўздымаць кошт, загадзя ведаючы, што яго тавар не купяць. Дзяржава ж, як нядбайная гаспадыня, увесь час цэны "ўскручвае". І як вынік – склады забіты прадукцыяй, на якую няма збыту. Прамысловасць працуе на склад, а рабочыя-вытворцы па гэтай прычыне замест зарплаты бачаць кукіш, упрыгожаны абяцанкамі высокіх чыноўнікаў.

Адкуль жа будзе ўсмешка на тварах беларусаў? Адкуль будзе ўпэўненасць у дні заўтрашнім? Адзін хлопчык, які жыве як бадзяжны сабака, бо бацька ў турме, а маці п'яніца, сказаў, што кожны дзень жыцця запамінаецца яму тым, што ён пражывае яго галодным". Без перабольшвання можна сказаць, што і гэты хлапчук, які яшчэ не паспеў зрабіць у гэтым жыцці нічога, і чалавек з вышэйшай адукацыяй, вялікім стажам работы, і прафесар, і таленавіты акцёр, і ўрач могуць сказаць тое ж: "голад стаў неад`емным атрыбутам нашага жыцця, нягледзячы на ўзрост, нацыянальнасць, палавую прыналежнасць, званні, дасягненні і заслугі. І гэта страшна, і ад гэтага не хочацца ўсміхацца.

І ўсё ж кожны народ мае свой шанц змяніць сваё жыццё да лепшага. Для гэтага ў Канстытуцыю закладзены выбары, час, калі грамадзяне або выкажуць давер кіраўніку, або асвішчуць яго і перададуць уладу другому.

Для беларусаў такая магчымасць выдаецца 9 верасня. Магчыма, ужо праз месяц-другі пасля гэтай даты некаму з нас захочацца ўсміхнуцца. І гэта цудоўна! Што можа быць прыгажэй за нацыю, якая ўсміхаецца светлай шчырай прывеглівай усмешкай!?

*Галіна Сутула*

# Абакралі рэдакцыю газеты "Дзень"

*Раніцай 17 ліпеня супрацоўнікі газеты "Дзень", што ў Мінску, прыйшоўшы на працу, убачылі разбітыя камп'ютары.*



Злодзеі ўкралі толькі сістэмныя блокі, дзе захоўваліся ўсе матэрыялы і дакументы рэдакцыі. Рэдакцыя газеты знаходзіцца на другім паверсе "Беларусьфільма", які добра ахоўваецца. Пад вокнамі рэдакцыі не знойдзена ніякіх слядоў, дзверы не былі ўзламаны, а ключы ад памяшкання былі толькі ў кіраўніцтва "Беларусьфільма" і ў супрацоўнікаў рэдакцыі.

Падобныя крадзяжы, хутчэй за ўсё заказныя, раз-пораз хваляй коцяцца па ўсёй Беларусі. Нападаюць часцей за ўсё на офісы рэдакцый незалежных газет і грамадскіх арганізацый, якія займаюцца актыўнай справай у перадвыбарчы час.

*А.Шніцкоў*

## На тэлебачанні новы кіраўнік

17 ліпеня старшынёй Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі РБ прызначаны Валерый Скварцоў. Нарадзіўся Валерый Скварцоў у 1946 годзе ў Полацкім раёне Віцебскай вобласці. У 1972 годзе скончыў журфак БДУ. Працаваў інструктарам ЦК ЛКСМБ, старшым рэдактарам рэдакцыі інфармацыі на радыё, сакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі.

*Ж.Чабанава*

*Думкі з нагоды*

# «Адзін думае пра сябе, другі -- пра ўсіх нас»

«Не так даўно прыйшлося назіраць такую сітуацыю. Ля рыбнай лаўкі -- чарга. Наперадзе -- старэнькая бабуля ў сінім зацыраваным паліто, якая сціскае ў худой, густа аплеценай жыламі, руцэ скамечаныя «зайцы» і паглядае на вэнджаную камсу.

-- Узважце мне рыбку, -- нясмела папрасіла яна прадаўшчыцу і вытрасла на прылавак дробязь.

Рыбка зацягнула на сорак два рублі. У бабулі было толькі адзінаццаць.

-- Можа меншую ўзважце, --жанчына не хацела адыходзіць...

Але і меншая цягнула на трыццаць пяць.

Жанчына ў скураным паліто, якая стаяла за бабуляй, не вытрымала:

-- Ці купляй, бабка, ці адыходзь. Няма калі стаяць.

Бабуля сабрала «зайцаў» і крыху адступіла. Без усялякай зайздрасці глядзела, як пакупніца закупляе і селядцы, і шпроты, і карпа. Разлічыўшыся, жанчына паспяшыла па сваіх справах

Падышла мая чарга. Грошы ў мяне было няшмат, таму купіла адзін селядзец і дзве рыбкі для бабулі, якая ўсё стаяла побач. Падала ёй, разгубленай, а сама ледзь не плачу: была б сама багацейшая -- больш бы дапамагла».

Такое пісьмо са сваім роздумам даслала нам чытачка з Глыбокага Тацццяна М. Яе высновы зводзяцца да таго, што грамадства павінна несці адказнасць за сваіх грамадзян. Не бабулі, а чыноўнікам павінна быць сорамна за тое, што нашы людзіператвараюцца ў жабракоў. Каб было больш багатых, то і бедным жылося б лягчэй. Не з усімі развažаннямі Тацццяны можна згадзіцца, але з прыведзенымі вывадамі поўнасцю згодна.

Усе мы, людзі, вельмі розныя. Розныя па характару, па інтарэсах, па жыццёвых прынцыпах. Мы выбіраем розныя сродкі для дасягнення сваіх мэт. І беспамылкова кажуць, што людзі аднолькавыя толькі ў адным: у імкненні быць шчаслівымі. Імкненне, вядома ж, аднолькавае, але разуменне шчасця ў кожнага сваё.

Для аднаго шчасце -- любімая праца, для другога -- каханне, сям'я, дзеці, для трэціх -- жыццё з дастаткам. Але нават гэтыя тры катэгорыі аб'яднаны адным: людзі «замыкаюцца» на шчасці асабістым. Людзі жывуць дзеля сябе, належаць сваёй сям'і, абмежаванаму колу сяброў, сваёй зацікаўленасці. Для такіх людзей, а іх большасць, шчасце -- гэта грошы, здароўе дзяцей і блізкіх, добрая работа, машына, хата, мэбля. Нічога дрэннага ў тым няма, але ж такія людзі зусім не думаюць, што побач з іх шчасцем ходзіць нечая бяда, і зусім незнаёмая, і добра вядомая. Але гэта бяда іх не цікавіць, бо не здольны яны ўсвядоміць адказнасць чалавека за іншых, не здольны паставіць сябе на нечае месца, не здольны праявіць міласэрнасць і дапамагчы іншаму.

Радкі «разделённое счастье -- два счастья, разделённое горе -- полгоря» не для іх усведамлення. Калі хто і пашкадуе іншага, то часцей на словах чым на справе. Нават на тым жыццёвым прыкладзе з пісьма бачна, якія мы ўсе розныя: адзін згроб сабе, не гледзячы на іншага, а другі з апошняга падзяліўся. Для першага пакупніка жыццё светлае, для бабулі яно -- цёмнае, а для Тацццяны яно горкае і балючае. І хоць, як яна піша, «мы не шыкуем, але і не галадаем» -- аптымізму няма. Сярод пакут астатніх нават уласны дабрабыт блякне і шчасце губляецца. Тацццяне не патрэбны «прыгожы салодкі падман», што ўсё ў нас добра і светла, бо ў жыцці яна бачыць адваротнае. Мо таму і чытае яна нашу газету з задавальненнем -- «там як ёсць, так і напісана. І навары, і недагляд кіраўнікоў, і парушэнне праваў чалавека -- усё так, як у жыцці». Другія, наадварот, лічаць, што газета павінна падаваць чытачам аптымізму і жадання жыць. Але *журналісты павінны канстатаваць факты, аналізаваць іх, ствараць малюнак часу,* а не засціляць чытачам вочы ленінскімі прынцыпамі «народнасці і праўдзівасці». У гэтым і праяўляецца вольнасць, свабода незалежнай прэсы.

Ну а для тых, хто лічыць, што мы наўмысна згушчаем фарбы, адкажу: шчаслівыя, як вядома, не толькі гадзін не заўважаюць, але і ніколі не пішуць у газеты. Пішуць няшчасныя, спадзеючыся на падтрымку. А мы ніколі не адмаўляем людзям і даём магчымасць выказацца. Мы запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх: тых, каму жыццё не здаецца безнадзейным, хто ўпэўнена стаіць на нагах і з надзеяй глядзіць у будучыню, хто шчаслівы, хто задаволены парадкамі ў краіне. Толькі з Вашай дапамогай можна зрабіць газету цікавую для многіх.

*М. Яськіна*

*Неверагодна, але факт*

# Характар распазнаецца па любімаму колеру

Вызначыць характар чалавека можна не толькі па яго звычках, але і па любімаму колеру.

***Блакітны*** колер любяць рамантыкі. Ён ідэальны для спальні, ванны і кабінета, садзейнічае лячэнню хвароб, якія звязаны з расстройствам нервовай сістэмы. Калі чалавек выбірае ***чырвоны*** колер, значыць, ён вельмі адчувальны і можа не толькі кахаць да бяспамяцтва, але быць дэспатам і псіхічна неўраўнаважаным.

***Жоўты*** – колер надзеі, аптымізму і "сусветнай любві". Людзі, якія яго выбіраюць, ветлівыя і лёгка збліжаюцца з іншымі.

***Колер кавы*** па душы тым, хто цэніць прыгожае.

***Зялёны*** колер падыходзіць людзям з моцнай воляй, тым, хто заўсёды кантралюе сітуацыю.

***Чорны*** выбіраюць людзі з дастаткам і з гонарам, ***белы***, хто не любіць канфліктаваць.

***Ружовы*** звычайна выбіраюць спакойныя жанчыны. У большасці мужчын, аднак, ён выклікае агіду і змяншае палавое прыцягненне. Тое ж датычыць і фіялетавага колеру.

***Шэры*** – прыкмета веркасці, маўчання, важнасці. Людзі, якім ён падабаецца, шмат увагі аддаюць рабоце.

*А.Пaларыя*

## *Адным радком*

- Беларусь стала 53-яй паўнапраўнай дзяржавай - членам Гаагскай канферэнцыі.
- — Гран-пры 9-га Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа" ў Магілёве атрымаў хор Беларускай акадэміі музыкі, які за сваю перамогу атрымае 1000 долараў ЗША.

Жыццёвая гісторыя

# Як мая суседка каўнер выкінула

Гэты выпадак здарыўся летам. Мая суседка ўстала яшчэ прыцемкам і збіралася, як звычайна, спраўляцца па гаспадарцы. Знадворку пачула ў хляве нейкую валтузню. Адчыніла дзверы і ўбачыла, што карова лісіцай, прыгожай цёмна-рыжай хітрухай. Усё ж нездарма ў казках лісіца -- самы хітры звер. Уцёк «каўнер» ад суседкі, дакладней, сама выкінула. А ў хлеў рыжая ашуканка, магчыма, палезла за яйкамі, бо ў кармушцы курыца была зладаваўшы гняздо. Ну а калі «ваюе» з некім у сваёй кармушцы. Яна адагнала рагулю і сунула руку ў кармушку. Нашчупала штосьці мяккае, бухматае. «Кот», -- вырашыла жанчына. У памяшканні было цемнавата і яна скіравалася на вуліцу, дзе ўжо досвітак дазваляў разглядзіць «ката». А той нерухома звісаў у руцэ, і яна вырашыла што карова рагамі забіла жывёліну. Шчыра пашкадавала, нават на карову пасварылася, толькі мільганула думка: «У каго ж тут такі кот калматы, сібірскі?» Вядома, што ў нашай вёсцы такіх няма. «Мабыць прыйшоў аднекуль» -- вырашыла суседка і, выйшаўшы на вуліцу, кінула таго «ката» на зямлю. Праз імгненне «кот» з усіх чатырох кінуўся ўцякаць, бо кот аказаўся зусім не катом, а папалася з «поличным», прыкінулася нежывой, што і ўратавала яе.

А знаёмы паляўнічы расказаў мне яшчэ адну гісторыю пра гэтага хітрага звера. Аднойчы на паляванні ён зблізу падстрэліў лісіцу, якая нечакана выскачыла з меліярацыйнага канала. Пасля стрэлу лісіца заваліілася і ляжала нерухома. Падабраўшы, ён насіў яе хвілін дваццаць. Патрыкееўна не выяўляла ніякіх прыкмет жыцця. Але калі паляўнічы прысеў, каб пераабуць боты і паклаў лісіцу каля сябе, адклаўшы ў бок стрэльбу, яна тут жа сіганула ў хмызняк, толькі ён і бачыў свой паляўнічы трафей.

*С. Табола*

Гэта цікава

# Сустрэча Буша і Пуціна

*Яна адбылася 16 чэрвеня 2001 года. Лідэры дзвюх краін упершыню пабачылі адзін другога. Як выглядаюць гэтыя асобы ў параўнанні, мы і прапануем Вам паглядзець.*

Пуцін маладзейшы за Буша на 6 год і 93 дні. Буш вышэйшы і цяжэйшы за Пуціна.

Зарплаты ў прэзідэнтаў непараўнальныя. У амерыканскага кіраўніка яна нядаўна павялічана з двухсот да чатырохсот тысяч долараў у год, а ў расійскага -- $6480. Затое браніраваны «Лінкольн» Буша каштуе 500 тысяч долараў, а пуцінскі «ЗІЛ» больш за 800 тысяч.

Утрыманне Буша разам з адміністрацыяй абыходзіцца падаткаплацельшчыкам у 272 мільёны долараў. На ўтрыманне расійскага прэзідэнта і адміністрацыі ідзе ўсяго $40 мільёнаў. Затое ў Пуціна 11 дзяржаўных дач, а ў Буша ўсяго адна.

Буш жыве і працуе ў Белым доме. Прэзідэнцкая сям'я займае 13 пакояў. У астатніх 19-ці памяшканнях размяшчаюцца памочнікі, прыслуга і ахова -- ўсяго каля ста чалавек. На іх зарплату штогод ідзе каля мільёна долараў. Утрыманне Белага дома абыходзіцца амерыканскай казне ў 2 мільёны долараў кожны год.

Прэзідэнт Расіі працуе ў 1-ым корпусе Крамля. Усяго ў рэзідэнцыі першай асобы Расіі 567 памяшканняў. Апартаменты абслугоўваюць 75 чалавек. Утрыманне крамлёўскай рэзідэнцыі абходзіцца штогод у $630 тысяч, уключаючы заробак персанала.

*«Навіны»*

Урыўкі з кнігі

# Жыццё: пакаранне ці падарунак?

Смерць -- сцерва жаночага полу. Яна ўпіваецца ў ахвяру, прымушаючы яе расплачвацца манетай найвышэйшай вартасці. Ні маркі, ні долары, ні рублі яна ў разлік не прымае, з істэрычнай скваппасцю ўпіваецца адабраным жыццём...

Калі смерць забірае маладых, поўных сіл і нерастрачанай энергіі людзей, доўга не магу прыйсці ў сябе.

Добра памятаю два фотаздымкі ў «Народнай газеце»: на першым -- шчаслівы бацька трымае на руках шасцігадовага сына. Подпіс: бацька і сын. На другім кадры той жа бацька на каленях са слязамі на вачах ля труны, у якой ляжыць яго шасцігадовы сын. Подпіс: сын і бацька. У гэтых здымках, зробленых на працягу года, «філасофія» жыцця.

Старая адзінокая маці ля магілы сына... Дзеці паміраюць у чэрвве маці яшчэ не нарадзіўшыся. Колькі жанчын мучаюцца ад бясплоддзя? Гаруюць дарослыя, бядуюць дзеці, сваімі лёсамі пацвярджаючы народную мудрасць, што шчасце без бацькі -- няпоўнае, без маці -- немагчымае...

25 тысяч дзяцей-сірот ніколі не спазнаюць, што Новы год -- гэта сямейнае свята. У іх няма сем'яў. У 1998 годзе выяўлена 5.676 сірот, а гэта намнога перавышае ўзровень сіроцтва ў пасляваенным 1946-ым годзе.

Наша багацце, дзеці, растае, як вясновы снег. За 10 апошніх гадоў краіна збяднела на 328 тысяч 500 дзяцей. Страціілі! Згубілі! Недалічыліся! Гэта якраз столькі дзяцей, колькі налічвае Гомельская вобласць сёння. За дзесяцігоддзе мы страцілі дзіцячае насельніцтва вобласці. А абласцей жа ў нас толькі шэсць. Хто застанецца на Белай Русі праз шэсць-дзесяць год, у 2060 годзе, калі мы не прыпынім разбуральны крок?

За дзесяць гадоў да Чарнобыльскай аварыі было зафіксавана 8 выпадкаў дзіцячай анкалогіі ў Беларусі, а пасля атамнай катастрофы -- 600!

Ірына Лемяшонак з Магілёва -- інвалід. Штодзень яна прачынаецца і кладзецца спаць з малітвай: «Дзякуй табе, Божа, за тое, што я жыву»! Падзячым Бога за гэты найкаштоўны дар і папросім міласці яго.

*Галіна Сутула*

# Спецнумары для «зорак» эстрады

У Расіі спецнумарамі, дзе ўказана прозвішча артыста, карыстаюцца Аляксандр Буйноў і Ірына Алеграва. Праўда, на джыпе Буйнова таблічкі побач з нумарамі замацаваны спераду і ззаду, а Ірына Алеграва карыстаецца сваімі спецнумарамі толькі па «святах». Спявачку на шыкоўным «Мерседесе», відаць, і так пазнаюць. Лаліце спецнумар падарыў яе прыхільнік, а Уладу Сташэўскаму яго ўручылі супрацоўнікі дарожнай службы прама на сцэне, калі ён выступаў на прафесійным свяце міліцыі.

*Па матэрыялах друку*

# «Только от жизни собачей собака бывае кусачей»

Хлопчык як звычайна гуляў ля сваёй хаты (амаль што ў цэнтры Глыбокага), калі на яго накінулася вялікая аўчарка. Добра, што побач быў дзед, які адагнаў сабаку. Уяўляю жах хлапчука на якога напаў сабака. Сам нядаўна ледзь абараніўся ад клыкатага «сябра» -- рукаво курткі аказалася парваным. Знаёмая дзяўчынка вывела сабаку пагуляць. Ён быў на павадку, але без намордніка. Стрымаць дужага чацвераногага ў дзіцяці сіл не хапіла -- той накінуўся на мяне.

Такое жыццё, што людзі ад яго звярэюць, што ўжо казаць пра сабак? Але калі чалавек нясе адказнасць за свае ўчынкі, то за сабаку павінен несці адказнасць гаспадар, калі такі ёсць. Большасць сабак, якія бегаюць па гарадах і пасёлках бадзяжныя. Яны тым больш небяспечныя, бо могуць хварэць на шаленства. Толькі ў Глыбоцкім раёне сёлета зафіксаваны 92 выпадкі нападаў сабак на людзей. За мінулы год 87 разоў пакусаныя пешаходы звярталіся за ме-дыцынскай дапамогай. У 1995 годзе такіх здарэнняў было толькі 49. Як і ў Глыбокім, так і ў Паставах і ў іншых населеных пунктах ноччу хадзіць небяспечна. Вуліцы цёмныя, з двароў з брэхам выскоквае нехта -- не зразумець: вялікі ці малы, злы ці толькі трэніруе голас, уцякаць ці стаяць? Не ведаю: хто дае права гаспадарам спускаць сабак нанач? Людзі ж ідуць на начныя змены, на цягнікі. У кожнага свае праблемы, а тут яшчэ бойся, каб не ўкусілі, не парвалі адзенне.

Адзін знаёмы раніцой ішоў на аўтобус. Перанялі двое сабак. Пакуль хлопец з перасцярогай сачыў за большым, непрыкметна меншы падкраўся і парваў штаніну.

Каб вырашыць праблему бадзяжных сабак, у камунгасе г. Глыбокае па рашэнню выканкама стварылі брыгаду па іх адлову і знішчэнню. Раз у тыдзень «звераловы» робяць «аблавы». На іх ліку ўжо 145 забітых сабак. Бесчалавечна, жорстка, але што рабіць інакш? Толькі ў жніўні па Віцебскай вобласці прышчэпкі ад шаленства зроблены 120 чалавекам. Летась на Гродненшчыне зафіксаваны выпадкі гібелі людзей ад шаленства. У Глыбокім распрацавалі план мерапрыемстваў, згодна якога трэба правесці рэгістрацыю ўсіх сабак, у розных кутках горада, абсталяваць пляцоўкі для іх выгулу і нават вальеры для часовага ўтрымання бяздомных жывёл. Планы добрыя, толькі ці ўдасца іх ажыццявіць? На сацыяльныя праграмы грошай не хапае, дзе ўжо пра сабак клапаціцца.

*У. Шык*

# Самы старажытны будынак у Глыбокім



*Фота Уладзіміра Скрабатуна*

На глыбоцкім рынку "Хітрушка" знаходзіцца, бадай, самы старажытны будынак нашага горада. Гацічная мураўка і памеры цэглы (28,5 х 13 х 6; 29,5 х 15,5 х 5 і гд) паказваюць, што час яго ўзвядзення можна аднесці на канец XVI - пач. XVII стст. Аб'ект патрабуе далейшага вывучэння, у тым ліку і археалагічных раскопак.

*Ул. Скрабатун.*

## Анекдот нумара

Пытанне армянскаму радыё: «Чаму спадарожнікі не лятаюць над Беларуссю?»

Адказ: «Баяцца зачапіцца за высокі ўзровень жыцця».

## Незвычайны ложак

**Апошнім часам у свеце ўзрастае працэнт дзіцячай смяротнасці пад час сна. На дапамогу бацькам і дзецям прыйшлі японскія вучоныя.**

У Токіо імі распрацоўваецца праект дзіцячага ложка, які будзе абсталяваны электроннымі прыборамі, што змогуць падаваць інфармацыю аб працаванні жыццёвых працэсаў у арганізме дзіцяці ў час сна.

*Па матэрыялах друку*

## БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

### ПРАДАЕЦЦА:



☒ **аўтамабіль «Фольксваген Пасат», турбадызель, 1993г.в. колер -- мокры асфальт, рухавік 1,9 м³; -- аўтамабіль ГАЗ-52, фургон, з запчасткамі, у добрым стане; -- бляху ацынкованую 2,50х1,25. Тэлефоны ў Глыбокім: 2-43-25, 2-20-17**

***

### КУПЛЮ:

☒ **Прычэп да легкавога аўтамабіля ў добрым стане.Тэлефоны ў Глыбокім: 2-43-25, 2-20-17**

### БУДУЮ:

**хаты, гаражы, фундаменты, платы з каменя. Нядорага. Па дамоўленасці. Тэлефон у Глыбокім: 23754**

### КУПЛЮ:

☒ **ВАЗ-2121 «Ніва» ў любым тэхнічным стане. Тэлефон ў Наваполацку 8-245-73042(Саша)**

### АБМЯНЯЮ:

☒ **3-пакаёвую прыватызаваную кватэру без выгод у Глыбокім на адна- або двухпакаёвую з выгодамі.**

**Звяртацца па адрасе: вул.Чкалава, 3 кв. 2**

Набывайце газету «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку»!

Незалежная рэгіянальная газета «Вольнае Глыбокае»

Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Набор, дызайн: Васіль Саланінка;
Рэгіянальныя карэспандэнты:
С. Табола, Шаркоўшчынскі р-н, тэл.: 23111;
У. Шык (г. Паставы), тэл.: 22099

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1099, выдадзена дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Тэлефон: 2 37 54 (Галіна СУТУЛА); тэл/факс 2 41 50.
Адрас для допісаў: вул. Валадарскага, 67, 211800, г. Глыбокае, BELARUS.

Газета выходзіць штотыднёва.
Аб'ём -- 1 друкаваны аркуш.
Падпісана ў друк 30 ліпеня 2001 г. у 9⁰⁰.

Наклад 1000 паасобнікаў

Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 5001